

*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№13 жнівень 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

# Наш юбілей

## *Шаноўныя чытачы!*

У вашых руках 13-ы нумар "Кардона". У нас першы юбілей – роўна год назад у жніўні 1999 года мы заявілі, што выстаўляем свой "Кардон" у абарону ўсяго беларускага: мовы, гісторыі, незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, яе працавітых і шчырых людзей.

Не маючы ні спецыяльнай адукацыі, ні журналісцкага вопыту мы адважыліся ўзяцца за новую справу, бо мелі і маем патрэбу выказаць свае меркаванні, свае адносіны да ўсяго, што адбываецца навокал. Мы спадзяваліся на вашу, шаноўныя чытачы, падтрымку і разуменне. І не памыліліся. За год склалася пэўнае кола аднадумцаў вакол "Кардона" і, нягледзячы нашматлікія памылкі і хібы, якія мы просім дараваць, нас чытаюць і чакаюць.

На жаль, распаўсюджванне вядзецца хаатычна. Хацелася б мець больш зваротнай сувязі, каб той, каму наш бюлетэнь патрэбны і цікавы, мог атрымаць яго і ў наступны раз. Для гэтага трэба толькі звярнуцца па тэлефоне 2 - 26 - 93, або на адрас: Бешанковічы, вул. Маладзёжная, д.9, кв.21. Будзем вельмі ўдзячны і за падказаныя тэмы, і за крытыку. Мы не можам павялічыць тыраж, таму, прачытаўшы чарговы нумар, пастарайцеся, каб яго прачытаў нехта яшчэ, перадайце знаёмым ці суседзям.

Асабліва прыемна адкрываць новыя імёны, знаёміцца з новымі творчымі асобамі. Мы спадзяемся, што адгукнуцца людзі, якія самі пішуць вершы ці апавяданні, пастараемся дапамагчы і надрукаваць іх. А ў рубрыцы "Гэта было" можа ўдзельнічаць кожны, хто напіша або раскажа цікавы выпадак з жыцця: смешны, недарэчны ці нават страшны. Для гэтага не трэба мець нейкія асаблівыя літаратурныя здольнасці, трэба толькі ўспомніць тое, што некалі адбылося з вамі або вашымі знаёмымі.

Зараз калектыў рэдакцыі складаецца з трох чалавек, па адукацыі ўсе тры – аграномы, скончылі ў розны час адзін і той жа факультэт сельгасакадэміі. Нас аб'яднала паэзія, вершы мы любім і пішам самі. Будзем рады, калі адгукнецца і далучыцца да нас як мага больш чытачоў. Станавіцеся побач, будзем працаваць разам!

***Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч, Уладзімір Асокін***

## ДАРУЙ, БЕЛАРУСЬ

А ты мне даруй, Беларусь мая мілая,
Што Чорнае мора і Волгу любіла я.
Ўсё гэта праходзіць, ўсё гэта мінаецца
І нават у восеньскіх снах не вяртаецца.

А ты мне даруй, Беларусь мая родная,
Што мова твая зараз нібы нямодная.
**І я гаварыла, пісала па-руску,**
**А думкам было і няёмка і вузка!**

А ты мне даруй, Беларусь запаведная,
Што ты сярод іншых краін непрыкметная,
Як быццам бяднейшая і сарамяжная
Сялянкаю простай прад панямі важнымі.

Як можаш, даруй, Беларусь, што не здолела
Пакуль што дабіцца сапраўднае волі ты.
І ўсё ж, кім ні станеш: багачкай, жабрачкаю –
З табой, Беларусь і святкую і плачу я.

***Наталля Хрышчанка,*** *настаўніца*

## СУВЕРЭНІТЭТ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА

***Адгалоскі Ўсебеларускага з'езда за незалежнасць***

Нацыянальная культура пачынаецца з нацыянальнай самасвядомасці, з пачуцця нацыянальнай годнасці, з разумення і ведання народам самога сябе. Адсюль вынікае стваральная энергія, скіраваная на духоўнае самасцвярджэнне і самарэалізацыю народа.

Чаму ў краінах Еўропы людзі жывуць багатым заможным жыццём? Таму што яны – патрыёты сваёй Бацькаўшчыны. Таму што высокае пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару не дазваляе ім жыць абы-як. Маленькая Данія, у пяць разоў меншая па плошчы за Беларусь, у год прадае сельгаспрадукцыі на 50 мільярдаў долараў. Адкуль такое? Ад культуры земляробства, ад культуры гаспадарання, ад культуры кіравання, ад высокай агульнай культуры. Культура – гэта сумленнасць, інтэлігентнасць, шляхетнасць, сціпласць. Ну а махлярства, ашуканства, хлусня, казнакрадства, цынізм, хамства і гадства – гэта антыкультура. У нас яна буяе пышным цветам.

**Нам даўно пара зрабіць выснову: каб жыць заможна і культурна, як іншыя еўрапейскія нацыі жывуць, трэба быць паўнапраўным гаспадаром сваёй сядзібы.**

*(працяг на стар.2)*

# СУВЕРЭНІТЭТ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА

(пачатак на стар.1)



На працягу ўсёй нашай трагічнай гісторыі ворагі Беларусі намагаліся не даць фарміравацца беларускай нацыянальнай свядомасці, не даць узрасці і расквітнець дрэву беларускай нацыянальнай культуры. Бо ведалі, што нацыянальна свядомы народ з багатай, моцна развітай культурай зламаць і асіміляваць немагчыма. Самы дзейсны спосаб асіміляцыі – гэта пазбавіць народ сваёй гісторыі, сваёй мовы, разбурыць тым самым асновы самабытнасці.

Ліквідатары беларушчыны заўсёды захопліваюць высокія пасады і адсоўваюць актыўных праваднікоў беларускай ідэі. Болей за ўсё яны баяцца, што за "беларускімі нацыяналістамі" пойдзе народ. І пойдзе!

За гады панавання іншамоўнай школы, асветы, культуры нацыянальная самабытнасць нашага народа ў вельмі небяспечнай меры размылася, аслабла пачуццё нацыянальнай годнасці, страціліся многія маральныя каштоўнасці. Разбураную эканоміку можна падняць за некалькі гадоў, каб падняцца з руін духоўнасці патрэбна некалькі пакаленняў. Там, дзе разбураецца народная мараль, нацыянальная мова, школа і культура – там пачынае панаваць дзікунства, у норму ўводзіцца хамства. Трэба тэрмінова бараніць беларускую культуру. Нельга дапусціць, каб зламалі і знявечылі, загубілі назаўсёды беларускую душу. І тут сваё слова павінна сказаць перш за ўсё інтэлігенцыя.

Ідэя нацыянальнага адраджэння заўсёды абуджала у дзеячаў мастацтва і літаратуры творчую энергію. Ці выконвае сваю гістарычную місію наша інтэлігенцыя? Яўна недастаткова. Краіна перажывае крайне драматычны этап. Па сутнасці вырашаецца пытанне аб лёсе беларускай нацыі: быць або не быць? Калі нацыянальна свядомыя сілы не аб'яднаюцца і не прыкладуць намаганняў да ўратавання дзяржаўнага суверэнітэту, беларуская драма можа перарасці ў трагедыю. Інтэлігенцыі, якой сапраўды баліць сэрца за лёс Бацькаўшчыны, шмат, але, на вялікі жаль, шмат і не такой. Многія да Беларусі яшчэ проста не дайшлі, многіх спаралізаваў страх. Гэта вынік таго, што незалежніцкія пачуцці беларускай інтэлігенцыі на працягу дзесяцігоддзяў кляйміліся і караліся.

Вельмі кароткім быў перыяд новага беларускага адраджэння 1990-1994 гадоў. Але шэсць гадоў назад сітуацыя рэзка памянялася, супроць беларускага нацыянальнага адраджэння пачаўся сапраўдны крыжовы паход. На сёння сітуацыя з беларускай мовай, беларускай школай, беларускай кнігай, у цэлым з беларускай духоўнай культурай выклікае вялікую трывогу. Галоўная прычына гэтага – узяты ўладамі курс на згортванне і ліквідацыю дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, на інкарпарацыю яе ў склад Расіі. Вось чаму ўсе, каму дарага наша зямля, наша слова, наша песня, наша гістарычная памяць, наша духоўная спадчына, нашы звычаі і традыцыі, - усе павінны падняць голас у абарону свабоды і суверэнітэту Бацькаўшчыны.

Страшная гэта рэч – абыякавасць да лёсу сваёй краіны, сваёй дзяржавы, сваёй мовы. Мы слаба вядзём азнаямленне з тымі эпізодамі і фактамі гісторыі Беларусі, якія пераканаўча тлумачаць адкуль і дзеля чаго пачалося і працягваецца сёння апантанае вынішчэнне беларускасці. "Сто тысяч штыков не сделают того, что сделает одна русская школа" – гэтая жахліва геніяльная формула працуе з часоў Мураўёва-Вешальніка. Сённяшнія асімілятары касцьмі кладуцца, каб не дапусціць у Беларусі беларускіх дзіцячых садкоў і школ, не кажучы пра беларускі нацыянальны універсітэт. Колькі цынічнага хамскага здзеку мусіць выцерпець беларус, які наважыўся дабіцца, каб яго дзіця вучылася на роднай мове. А трубачы рэжыму трубяць пра роўнапраўе двух моў. Усякая хлусня гучала на нашай зямлі, але такой беспардоннай яшчэ не было.

Культурная краіна – гэта краіна гарантаваных дэмакратычных свабод, у якой душу чалавека не гняце страх, што ён можа без суда і следства стаць ахвярай хапуна і тэрору.

Культурная краіна – гэта краіна адкрытага прававога грамадства, дзе пануюць роўнаабавязковыя для ўсіх грамадзян законы.

Культурная краіна – гэта краіна, дзе дзяржаўныя ўлады хлусіць свайму народу не могуць, а калі такое здараецца, то нясуць суровае пакаранне.

Культурная краіна – гэта краіна, дзе пануе культ роднай мовы, дзе гістарычныя нацыянальныя святыні ў вялікай пашане, а прыклад такога шанавання дае простым людзям высокае начальства.

Культурная краіна – гэта краіна, дзе вышэй за ўсе каштоўнасці цэніцца дзяржаўная незалежнасць, дзе нацыянальным суверэнітэтам не гандлююць і за нафту і газ не прадаюць.

Беларускі народ – за ўсе панесеныя ў стагоддзях ахвяры, за ўсе сцярпелыя пакуты і крыўды – заслужыў таго, каб жыць у культурнай краіне. Але такую краіну мы можам і павінны зрабіць самі.

***Ніл Гілевіч, з выступлення на Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць,*** *скарочана.*

# АСАВЕЦ - СВЕТУ КАНЕЦ, АБО ПАЧАТАК ?



**На здымку злева направа: Віталь Садоўскі, Максім Чарняўскі, Міхаіл Чарняўскі 24.08.2000 на раскопках стаянкі Асавец**

Даўно ведаю, што каля вёскі Асавец адкрыта некалькі стаянак першабытнага чалавека, але, бываючы там, ніяк не магла вызначыць, дзе ж яны знаходзяцца. Вока шукала нейкае высокае месца, падобнае на стаянку ў Юравічах, а "на поўдзень ад вёскі", як напісана ў кнігах – тарфянік з ледзь прыкметнымі пагоркамі на ім. Няма ніякіх ахоўных папераджальных знакаў, што тут нельга весці земляныя работы, што гэта месца – археалагічны помнік. Карцела паглядзець, дзе ж тыя стаянкі, таму на званок Уладзіміра Асокіна, з прапановай наведаць прыехаўшых на раскопкі ў Асавец археолагаў з Мінску, адказала згодай. Уладзімір сам нарадзіўся ў Асаўцы, раней нават прымаў удзел у раскопках, якія вядуцца амаль кожнае лета. Вечарэла, было халаднавата і пакуль мы дабрылі да невялікай блакітнай палаткі на правым беразе Крывінкі за вёскай Асавец, пачаўся дождж. Але сустрэча адбылася цёплая і цікавая.

Экспедыцыя – тры чалавекі: Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі - загадчык аддзела архітэктуры Інстытута гісторыі нацыянальнай Акадэміі навук , яго сын Максім - аспірант, таксама археолаг і юны скаут Віталь Садоўскі, якому назаўтра спаўнялася якраз 16 гадоў. Сустрэлі прыязна, а значкі на куртках у аднаго з выявай Пагоні, а ў другога з бел-чырвона-белым сцяжком спрасцілі знаёмства – свае. Прыемна было слухаць, як яны свабодна і звыкла размаўляюць па-беларуску. Я не падрыхтавалася да інтэрв'ю, наогул, археалогія для мяне - даволі цёмны лес, але Міхаіл Міхайлавіч і без маіх пытанняў пачаў захоплена распавядаць пра сваю любімую справу. Гэта і не дзіўна, бо ўсе Асавецкія стаянкі адкрыты ім, ён жа і даследуе іх, стараецца прыехаць амаль кожны год. У 1966 годзе маладым археолагам даследаваў стаянку, адкрытую К. М. Палікарповічам каля вёскі Галоўск Сенненскага раёна. Гэта недалёка ад Асаўца, крыху далей на поўдзень на тым жа тарфяністым балоце. Настойлівасць, працавітасць, назіральнасць, веды, інтуіцыя і, напэўна яшчэ ўдача дапамаглі Міхаілу Міхайлавічу зрабіць шмат новых адкрыццяў. Ім выяўлена 5 стаянак на Асавецкім тарфяніку, праведзена шмат раскопак, напісана некалькі кніг і шэраг гістарычных артыкулаў.



**М. М. Чарняўскі, партрэт у інтэр'еры палаткі**

Асавецкія стаянкі знаходзяцца недалёка адна ад адной на мясцовасці, але вельмі далёка ў часе – ад неаліту да бронзавага веку. Мяняўся клімат, вялікае возера, якое было ў тыя часы на месцы цяперашняга балота, то пашыралася, то мялела, разам з яго берагамі мянялі месца сваіх паселішчаў і людзі, якім зручней было жыць ля вады. Стаянкі праіснавалі прыкладна да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да нашай эры, калі адбыўся значны ўздым узроўню вады, возера затапіла іх. Людзі парабраліся на больш высокія месцы, а рэшткі іх паселішчаў надзейна захоўваліся пад слоем торфу да пачатку меліяратыўных работ.

Меліярацыя і іншая дзейнасць чалавека сучаснага знішчыла шмат каштоўнага гістарычнага матэрыялу. Але яна ж і дапамагла адкрыць стаянкі. Знаходак на Асавецкіх стаянках зроблена вельмі шмат. Тут і крамянёвыя прылады: нажы, наканечнікі стрэл і пікаў, тапары, скрабкі і вырабы з касцей і клыкоў жывёл, і ўпрыгожанні з бурштыну. Часцей за іншыя рэчы трапляецца керамічны посуд. Тут, у Асаўцы, знойдзены вельмі рэдкія найстаражытнейшыя на тэрыторыі Беларусі статуэткі ў выглядзе чалавечых фігурак, змяі, качкі.

*(працяг на стар.4)*

# АСАВЕЦ - СВЕТУ КАНЕЦ, АБО ПАЧАТАК ?



**Асавецкія знаходкі мінулых гадоў**

*(пачатак на стар.3)*

Большая частка знаходак зараз у Мінскіх музеях, невялікая частка ў Бешанковіцкім і Віцебскім краязнаўчых музеях. Нам паказалі фрагменты драўлянага упрыгожання, штрыхаваную кераміку, крамянёвыя наканечнікі стрэл, знойдзеныя сёлета. На падставе гэтых знаходак вучоныя ўзнаўляюць падзеі далёкага мінулага, побыт нашых продкаў, іх сувязі з навакольным светам.



**На далоні Віталія Садоўскага фрагменты керамікі і крамянёвы наканечнік баявой стралы, знойдзеныя сёлета.**

Старажытныя людзі, якія жылі на стаянках Асавец, займаліся паляваннем, лоўляй рыбы, збіральніцтвам. На іхніх "сметніках" косці жывёл і рыбы, ракавіны малюскаў, шалупінне арэхаў і жалудоў. Былі раскапаны і больш буйныя знаходкі: рэшткі драўляных пабудоў, чоўнаў, кастрышчы. Гэта сучасны чалавек можа раскласці агонь прама на тарфяніку, які потым да зімы не могуць патушыць. А першабытны чалавек разумеў, што гэта небяспечна, таму для вогнішча насыпалі на торф спачатку тоўсты слой яловай кары, потым слой пяску. І карысталіся гэтым вогнішчам гадамі.

Крамянёвыя прылады зроблены не толькі з мясцовага шэрага крэменя, але і з крэмня з Панямоння і нават з Валдайскага ўзвышша. З берагоў Балтыкі сюды трапляў бурштын. Мелі продкі нейкія адносіны з рознымі суседзямі.

Керамічны посуд ляпілі з гліняных палосак. Гэта былі вастрадонныя гаршкі вялікіх і меншых памераў, разнастайныя дробныя вырабы. Пазней дно пачалі рабіць прытупленым і зусім плоскім. З вонкавага боку кераміка аздоблена арнаментам з рознага тыпу насечак. Прыгожа і зручна, з рук не выкаўзне, бо рэчы гэтыя вельмі цаніліся, нават разбітыя іх неяк спрабавалі склеіць і працягвалі выкарыстоўваць. Значна радзей трапляюцца на кераміцы малюнкі фігурак чалавека і жывёл.

Міхаіл Міхайлавіч можа гаварыць пра свае знаходкі бясконца і вельмі цікава. Калі хто хоча падрабязней даведацца пра археалагічныя работы і іх вынікі – чытайце яго кнігі. Праўда, у нашай раённай бібліятэцы мне дапамаглі знайсці толькі адну з іх – першы том "Археалогіі Беларусі". Назва Асавец, як лічыць Міхаіл Міхайлавіч, пайшла ад слова асіна ці аса. Гэтае дрэва і зараз распаўсюджана ў наваколлі. Мяккая драўніна, ўстойлівая да гніення, выкарыстоўвалася даволі шырока. Пачулі мы і некалькі сучасных мясцовых паданняў, напрыклад пра ўпаўшы ў час вайны самалет, які так і застаўся ў балоце. Развіталіся, калі амаль сцямнела, цвёрда ўпэўненыя, што пагаворка: "Асавец – свету канец" зусім не адпавядае рэчаіснасці. Не канец, а наадварот - пачатак нашага роду на гэтым месцы, тут жылі нашы самыя старадаўнія продкі.

*В. Гракун.*

# 90 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

* * *

Край мой любы, войнамі змучаны,
Над народам смяротная цень.
Моладзь споена, моладзь аблучана,
Ці падыме цябе з калень?
Адным чарку, другім у партыю,
Толькі б нечым зацiснуць рот,
А дзе ж тыя, нечага вартыя,
Што стаялі б за свой народ?
Жаль, браты. вас. хлуснёй зьняволеных,
Мовы роднае не чуваць,
Можна збожжа прадаць, жывёліну,
А ці ж можна душу прадаць?
Не было нам ніколі соладка,
Горда ўмелі мы боль стрываць,
Можна хату прадаць і вопратку,
А ці ж можна маці прадаць?
Мужыкамі нас клічуць і хамамі,
Мазалі на нашых руках,
Наша вопратка не духмяная,
Йдуць паны па нашых слязах.
Нам баранка. лапатка, кельма,
Ім бізун, каб нас паганяць
І тапіць нас ў хлусні пякельнай,
Род з зямлі нашай карчаваць.
Жылі хаты па-чалавечы,
Ім сягоння ніяк няўцям,
Што ўсё нашае нам нявечаць,
Забіраюць радасць жыцця.
Душы нашыя – бель палотнаў,
Толькі б бруду іх не прасяк,
Беларус зноў малы, гаротны,
Толькі моцны ў яго кулак.
Ён стрывае любую працу,
Бо ягоныя тут палі,
Чужым злыдням ў ярмо не дасца
На пакутнай сьвятой зямлі!
Век дваццаты, ня час Батыя,
Нельга нішчыць сем'яў сыноў.
Беларусы сёння не тыя,
Навучыліся біць паноў
Рознай масці: белых, чырвоных,
Што з народнай крыві жывуць.
Беларусам годзе прыгону,
Беларусы з калень устаюць!
У беларуса свая ёсць мова,
Гаі, пушчы воляй шумяць,
Бараніць іх жыццём ён гатовы,
Барацьбы з хлуснёй не стрымаць.
Душа чыстая, як на споведзі,
За жыццё ўстае для жывых.
Аблучаць ўжо не дасць ён моладзі,
Воля гімнам бурліць у крыві!

*ЛАРЫСА ГЕНІЮШ*

***"Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе - зусім не жыць"***
***Л. Геніюш.***



9 жніўня – 90 год з дня нараджэння выдатнай беларускай паэткі-змагара Ларысы Геніюш. Яна нарадзілася напярэдадні першай сусветнай вайны на Гродзеншчыне. Яе жыццё – суцэльны шэраг выпрабаванняў: вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна – гэта толькі пачатак. Яна выйшла замуж за беларуса Янку Геніюша, які вучыўся ў Празе і ў 1937 годзе з сынам пераехала да яго. Там з'яўляюцца першыя публікацыі яе вершаў у эміграцыйным друку. У 1939 годзе бальшавікі расстралялі яе бацьку, а маці выслалі ў Казахстан, дзе яна памерла ў 1945 годзе. На фронце загінулі абодва браты Ларысы. Ў 1942 годзе Ларыса Геніюш – Генеральны сакратар Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Яна захоўвае архіў БНР. У 1948 годзе Ларыса і Янка Геніюш былі арыштаваны ў Празе і перададзены савецкім уладам. Сын Юрка застаецца на волі. Ларысу і Янку асудзілі на 25 гадоў лагераў і адправілі ў Комі АССР. Яе абвінавачвалі ў тым, што яна падпісала калектыўнае пісьмо Гітлеру. І хоць сама яна адмаўляла гэта, даказаць было немагчыма, бо за гэтым фармальным абвінавачваннем, была іншае: яна па-сапраўднаму любіла Беларусь і не хацела быць вінцікам савецкай машыны. Яе пераследавалі і за тое, што адмаўлялася прыняць савецкае грамадзянства.

Пасля смерці Сталіна Геніюшы былі часткова рэабілітаваныя і пасяліліся ў Зельве. Гаротны жыццёвы шлях у крывавай савецкай імперыі не зламаў сілу духу гэтай жанчыны. Яна піша шмат вершаў – сапраўдных гімнаў свабоды, якія нельга чытаць без камяка ў горле.

Ларыса Геніюш унесла вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры. Але да гэтай пары ўлады не прызнаюць яе заслугі. Яе імя няма ні ў афіцыйных даведніках, ні ў энцыклапедыях. Больш таго, яе вершаў няма ў школьных падручніках. Напэўна, нашай уладзе шкодзіць усё, што датычыць беларускасці. Але забараняць на Беларусі вершы Ларысы Геніюш – амль тое ж самае, што ў рускай літаратуры забараніць Ахматаву ці Цвятаеву.

Памерла паэтка ў 1983 годзе, ненамнога перажыўшы свайго Янку. Яе забаранялі хаваць па праваслаўным абрадзе, але насуперак забароне, адбылося адпяванне ў царкве. Шмат людзей сабралася, каб правесці яе ў апошні шлях. Улады баяліся, што пахаванне ператворыцца ў палітычнае мерапрыемства, тым больш, што з Польшчы прыехаў яе сын, які меў дачыненне да дзейнасці забароненай «Салідарнасці». Саюз пісьменнікаў зрабіў выгляд, што да пахавання паэткі не мае ніякіх адносін.

Сёлета на царкве, дзе адпявалі Геніюш, з'явілася памятная дошка. Царква такім чынам увекавечыла памяць пісьменніцы і патрыёткі. А афіцыйныя ўлады зноў прамаўчалі. Грамадскасць адзначыла 90-годдзе рознымі мерапрыемствамі, у тым ліку літаратурнай вечарынай, на якой быў прыняты зварот да ўладаў, каб назваць вуліцу Савецкую ў Зельве вуліцай Ларысы Геніюш. Ці пачуюць?

Пры жыцці творы Л. Геніюш амаль не друкаваліся, выйшла толькі некалькі невялікіх зборнікаў, пакрэсленых цэнзурай. Зараз мы можам нарэшце прачытаць яе вершы, перавыдадзены яе першы пражскі зборнік, рыхтуецца да друку кніга вершаў і ўспамінаў пра страшныя лагерныя гады

# ЖНІВО, або ДУМКІ ЎНІЗ ГАЛАВОЙ

## *Рэпартаж з пшанічнага поля*

Каторы ўжо дзень шчырую з сярпом. Пшаніца вырасла неблагая, але камбайн можа падыйсці не раней як праз месяц, калі мая збажына паляжа, заб'ецца травой і часткова будзе абмалочана птушкамі. Нічога больш не застаецца, як завіхацца з сярпом.

На трэцці дзень стаяць уніз галавой становіцца ўжо звыклай справай, нават падабаецца. Вось толькі ў галаве ўсё перамяшалася, думкі лезуць нейкія заганныя, ды ўсё з абагульненнямі, з вывадамі. Хочаце паслухаць пра што? Слухайце, не шкада.

Серп – вынаходніцтва вельмі даўняе, ледзь не з каменнага веку. А вось дажыў жа і да нашых дзён. Прынамсі ў Беларусі, там дзе гадоў 20 назад быў ужо амаль пабудаваны камунізм, а зараз будуецца нейкі новы тып грамадства. У аснове гэтага "новага" грамадства – пажылыя людзі, пенсіянеры, якія прывыклі толькі працаваць, працаваць, працаваць да сёмага поту. Асноўныя прылады іх працы: плуг, рыдлёўка, каса, вілы, мех, ды вось яшчэ гэты рэлікт – серп. Менавіта дзякуючы іх самаадданай працы існуе і ўся сістэма з вертыкаллю і гарызанталямі. Мой бацька таксама з гэтых людзей. Старому 78 гадоў, пенсія ці не ўдвая большая за маю зарплату, а ён яшчэ 2 каровы трымае, 5 галоў свінней, коніка ды гектар зерневых і 70 сотак бульбы. Для якога такога лысага чорта яму гэта патрэбна? Каб разбагацець? Трасцу тут разбагацееш! Проста не можа чалавек не працаваць. Яму ўсё жыццё паламалі, калі ў 30-х гадах ссялілі з хутара і загналі ў калгас. Ён памаладзеў год на 10, калі зноў свайго коніка займеў.

Начальнікі кажуць, што няма альтэрнатывы калгасам, што мы без іх не пражывём. Гэта яны, начальнікі, можа і не пражывуць. А гаспадары выжывуць, ды яшчэ і па дзесятку чалавек змогуць пракарміць. Гараджане могуць захваляцца: як жа без таннай сельгаспрадукцыі, якую дае зараз вёска. Яны і зараз ні прадуктамі, ні зарплатай не абдзеленыя, бо калі іх пакрыўдзіць – могуць выйсці на вуліцы і сказаць сваё моцнае, пралетарскае: "Далоў!". А ў вёсцы сапраўдны ГУЛАГ атрымліваецца: хоць і на свабодзе, а цэлы дзень галавой ўніз ад цямна да цямна і амаль што бясплатна працуюць.

Большасць краін без такой напружанай працы абыходзяцца і жывуць нашмат лепш. Але нам іхні цывілізаваны стыль жыцця не падыходзіць. Наш прэзідэнт гэта дакладна ведае, сказаў жа не так даўно, што за цывілізаваным светам свой народ не павядзе. А я яму веру, сапраўды, не павядзе. Можа дарма? Прыйдзецца мне яшчэ не адзін тыдзень стаяць так, уніз галавой. Я ужо і прызвычаіўся, ды прыдзецца ж хутка бульбоўнік касіць, а галавой уніз касіць не атрымаецца. Жонка падказала выйсце: "А ты і бульбоўнік жні!" . А потым адразу, не разгінаючыся, і капаць тую бульбачку. Звычка ёсць звычка. Галоўнае – не разгінацца.

Пра прэзідэнта нашага вось думаю. У яго ёсць усё сучаснае: ахова, самалёт, аўтамабілі. А калі б і ён разам з намі адмовіўся ад гэтых дасягненняў цывілізацыі? Запрашаюць яго, напрыклад, з візітам у Расію, а ён садзіцца на каня – тыдзень – і ў Маскве, паўгода – і ў Кітаі. Навошта тая цывілізацыя? Ды ў час такога падарожжа і ўбачыць можна больш, ніхто з памагатых у зман не ўвядзе. А то рапартуюць з усіх бакоў: валавы нацыянальны прадукт павышаецца, зарплата павышаецца, надоі і прывесы таксама. Ужо вось-вось узроўню таго самага недабудаванага камунізму дасягнем...Галавой уніз на сонцапёку ці гэтак жа пад дажджом на бульбянішчы. Сам жа прэзідэнт у такой позе бывае мабыць толькі калі шнуркі на чаравіках завязвае.

А я, стоячы ўніз галавой, думаю яшчэ і аб тым, напрыклад, што будзе сёння есці сям'я. Не простае гэта пытанне сёння не толькі для мяне, а і для большасці людзей у нашай гаротнай краіне. Ашчаджваеш, ашчаджваеш кожны рубель, а ў выніку іх ўсё роўна не хапае нават на самае неабходнае. Дзякуй Богу, грыбы ў лесе пайшлі. У лесе цяпер поўна людзей, тут хутчэй знаёмага сустрэнеш, чым на вуліцы, усе нейкі пажытак шукаюць. Штось я не пра тое. ВНП ж расце, мінімалку хутка ўдвая павялічыць абяцаюць. А купіць сабе новыя чаравікі не змагу напэўна і сёлета, трэба старыя берагчы. Што ж, басанож яно і здаравей, асабліва калі ты галавой уніз...

Мне здаецца, што большасць людзей у нашай краіне так і жывуць – галавой уніз. Адны ад несупыннай напружанай працы спіну распраміць ужо не могуць, другія – перад начальствам прывыклі стаяць у такой позе, а большасці проста так зручней: перавернешся галавой уніз і ўсё ў жыцці стваноўвіцца зразумелым, хай цяпер той ВНП яшчэ больш расце. Галоўнае ж не ў ім, а тым, што народ такую палітыку падтрымлівае, яму падабаецца – галавой уніз.

Шчыруе сяло. Па гектару зямлі дазволілі ўзяць і каня свайго займець. Цяпер не хвалюйся, прэзідэнт, - не падвядзём. І з рэформамі не трэба спяшацца. Навошта нешта мяняць, калі можна проста стаць уніз галавой. Вось толькі за будучае крыху трывожна: што будзе, калі вымруць усе тыя, каму зручна ўніз галавой? Моладзь саладзейшага жыцця хоча, нагледзеліся па тэлевізару, як у іншых краінах жывуць, не хочуць стаяць ракам.

Але што гэта я, хутка ж бульбу капаць. Не дадзім сабе памерці з голаду, станем дружна ўсе ўніз галавой. Толькі адно страшна: вось-вось падатак на гэту нашу ўлюбёную позу ўвядуць, грошай жа ў бюджэце кажуць не хапае. Падатак заўсёды ўводзяць на тое, што прыносіць прыбытак. А сагнутая спіна – гэта ж такая абагачальная поза, з яе ж большасць беларусаў жыве. Не зараз, дык пасля выбараў, але абавязкова дадумаюцца да такога падатку. Што тады рабіць будзем? Думай, галава.

***Г. Станкевіч, вёска Старыя Ранчыцы, пшанічнае поле.***

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы". № 13, жнівень 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна. Тэл. 2 – 26 – 93, 211 350. Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.